www.nv-online.info

№ 85 (4030)

30 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



## У верасні сярэдні заробак па краіне склаў у эквіваленце ўсяго прыкладна 390 долараў.

## А дзе абяцаныя 1000 долараў?



ЗНАКОМЬТЕСЬ!



# Беата Шидло: дочь шахтера в кресле премьера Польши

Консерватор Беата Шидло хотя и не новичок в польской политике, но пока известна мало. Однако именно она празднует свою первую крупную победу, выиграв борьбу за пост премьер-министра Польши у другой дамы – Евы Копач.

Беате Шидло 52 года. На протяжении 10 лет она является депутатом польского сейма от консервативной партии «Право и справедливость», которая добилась впечатляющего успеха на прошедших в воскресенье всеобщих выборах в Польше.

На первый план Шидло вышла весной этого года, когда возглавила предвыборную кампанию своего однопартийца Анджея Дуды, завершившуюся его победой на президентских выборах.

Тогда мало кому известная Беата Шидло удивила многих поляков, включая лидера ее партии Ярослава Качиньского. Благодаря ее усилиям Дуда, хоть и с небольшим перевесом, но все же обошел действующего на тот момент президента страны Бронислава Коморовского.

В ходе кампании Дуда в сопровождении энергичной Шидло объездил многие регионы страны, встречаясь с избирателями и выслушивая их пожелания. Отдавая должное ее роли в победе президента-консерватора, глава «Права и справедливости» Качиньский назначил Беату Шидло кандидатом от партии на пост премьер-министра Польши.

*(Продолжение на 5-й стр.)*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Людзі хочуць ушанаваць памяць нявінна расстраляных у часы сталінізму, а з іх за гэта патрабуюць грошы

*Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ атрымала дазвол на правядзенне дэманстрацыі і мітынгу ў Курапатах на Дзяды. Аднак Мінскі абласны выканкам за подпісам старшыні Сямёна Шапіры запатрабаваў, каб за абслугоўванне падчас мерапрыемства... заплацілі.*

Да 30 кастрычніка арганізатары павінны скласці адпаведныя дамовы і аплаціць паслугі супрацоўнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства аховы здароўя, якія будуць несці службу падчас правядзення мерапрыемства. Цікава, мінскія гарадскія чыноўнікі плату не запатрабавалі, хаця гэта рашэнне прымалася калегіяльна з удзелам прадстаўнікоў міліцыі і пракуратуры, а вось абласныя...

Намеснік старшыні партыі **Юрась Беленькі** лічыць, што Сямён Шапіра прыняў рашэнне насуперак дзеючаму заканадаўству. Ён бачыць парушэнне норм Канстытуцыі. На яго погляд, удзельнікі акцыі – падаткаплацельшчыкі, і менавіта за іх кошт утрымліваюцца і міліцыя, і медыцына, і ўсе структуры МНС. Пра несправядлівае рашэнне Мінскага аблвыканкама сведчыць і той факт, што з БРСМ за правядзенне акцый грошай улады не бяруць. Сябрам БРСМ нават раздаюць сцяжкі і транспаранты за дзяржаўны кошт.

Юрась Беленькі кажа, што дзеянням чыноўнікаў трэба даць прававую ацэнку.

– *Згодна з беларускім заканадаўствам і з міжнароднымі нормамі, нельга браць грошы за правядзенне некамерцыйнага мерапрыемства*, – кажа сябра КХП–БНФ **Алесь Чахольскі.** – *Якой мараллю кіруюцца чыноўнікі? Хто даў права парушаць заканадаўства? Людзі хочуць ушанаваць памяць нявінна расстраляных у часы сталінізму, а з іх за гэта патрабуюць грошы. Гэта нармальна?! Можна сабе ўявіць, каб такое было ў Бухенвальдзе ці ў Асвенцыме?*

Арганізатары запэўнілі, што акцыя адбудзецца ў любым выпадку. Збор традыцыйна прызначаны каля гадзіннікавага завода ў 11 гадзін. У 11.30 пачнецца шэсце па праспекце Незалежнасці да Нацыянальнай бібліятэкі, а адтуль калона накіруецца ўздоўж вуліцы Каліноўскага ва ўрочышча Курапаты. Мітынг запланаваны на 14.30. Мерапрыемства павінна скончыцца ў 17 гадзін.

У заяўцы пазначана колькасць удзельнікаў – да пяці тысяч чалавек. Кожны можа прыйсці з нацыянальным сцягам. Па крайняй меры на гэта дазвол браць не трэба і... плаціць таксама.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДАПАМОГА



# На пачак памперсаў не хопіць

З 1 лістапада ў Беларусі будзе павялічаны памер дапамогі, які выплачваецца па доглядзе за дзецьмі ва ўзросце да трох гадоў, а таксама адначасовыя дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці.

Што тычыцца памеру дапамогі дэкрэтніцам, то ён залежыць ад сярэдняй зарплаты па краіне за тры месяцы. А яна, мяркуючы па статыстыцы Белстата, вырасла на 256 тысяч рублёў. За ліпень–верасень сярэдні заробак беларусаў склаў 6.953.494 рублі.

У Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны Беларусі растлумачылі, што, такім чынам, памер дапамогі **па доглядзе за першым дзіцем** у сям'і, якому не споўнілася 3 гады (35% ад сярэднямесячнай зарплаты), з 1 лістапада складзе **2 мільёны 433,7 тысячы** рублёў (на 90 тысяч больш, чым раней).

Памер выплат **на другога і наступных дзяцей** (40% ад заробку) складзе **2 мільёны 781,4 тысячы рублёў** (на 102 тысячы больш).

Як смяюцца маладыя мамы, дабаўкі не хопіць нават на пачак самых танных памперсаў.

Дарэчы, такія памеры дапамогі па доглядзе за дзецьмі да трох гадоў будуць дзейнічаць да 1 студзеня 2016 года.

Што тычыцца адначасовых выплат у сувязі з нараджэннем дзіцяці, то яны таксама падрастуць. Таму што з 1 лістапада адбудзецца чарговы перагляд памеру бюджэту пражытачнага мінімуму, ад якога і залежыць памер гэтых выплат.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АКЦЫЯ

# У «Ланцуг памяці» ўстала не больш за 100 чалавек...

29 кастрычніка ў Беларусі – дзень ушанавання памяці суайчыннікаў, бязвінна закатаваных у гады сталінскіх рэпрэсій. Былы палітвязень, кандыдат у прэзідэнты 2010 года Мікалай Статкевіч звярнуўся да беларусаў з прапановай сабрацца ўвечары гэтага дня на праспекце Незалежнасці каля будынка КДБ на акцыю «Ланцуг памяці». «Не бярыце з сабой ніякіх сцягоў ці плакатаў, прыносьце толькі свечкі ці лампадкі», – заклікаў Статкевіч праз «Фэйсбук».

У любым выпадку акцыя была несанкцыянавана, таму разлічваць на вялікую колькасць прысутных не выпадала. Хаця тэма рэпрэсій балючая і кранае многіх і многіх беларусаў.

Так усё і адбылося: у акцыі «Ланцуг памяці» ўзялі ўдзел не больш за 100 чалавек. Многія прыйшлі з партрэтамі



svaboda.org

рэпрэсаваных родных. Лампадкі яны запальвалі пад пільным вокам праваахоўнікаў і «людзей у чорным». Яшчэ за дзве гадзіны да збору каля будынка КДБ на вуліцы Камсамольскай з'явіліся аўтазакі. На момант здачы гэтага нумара «Народнай Волі» ў друк затрыманняў не было. Міліцыя склала пратаколы на арганізатараў акцыі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

# Рублёвыя ўклады скарачаюцца

На банкаўскіх укладах у беларусаў захоўваецца каля 190 трыльёнаў рублёў, паведамляе Нацбанк.

Пры гэтым валютныя ўклады ў насельніцтва больш папулярныя, чым рублёвыя: на дэпазіты ў рублях прыходзіцца 43 трыльёны рублёў, астатняя сума – у валюце. Што цікава: рублёвыя ўклады скарачаюцца трэці месяц запар. Больш за ўсё зберажэнняў у банках захоўваюць мінчане (84 трыльёны рублёў), а менш за ўсіх – жыхары Магілёўскай вобласці (13,9 трыльёна).

ПОСЛЕ СКАНДАЛА

# Светлана АЛЕКСИЕВИЧ: «Я никогда не критиковала белорусский народ...»

*Так какой же ушат грязи вылила лауреат Нобелевской премии Светлана Алексиевич на свою страну? Что плохого она сказала о Родине? Насколько резонны упреки в ее адрес Александра Лукашенко, высказанные на тусовке российской попсы? «Народная Воля» предлагает читателям ознакомиться практически со всеми последними высказываниями С.Алексиевич, в которых она, отвечая на различные вопросы, упоминает Беларусь, власть и лично А.Лукашенко. Как можно убедиться, ничего плохого она не сказала ни в адрес белорусского народа, ни в адрес своей Родины. А что касается А.Лукашенко, то не нужно думать, что он – это всё государство, это вся Беларусь, это весь её народ...*

* * *

«В Беларуси Лукашенко остановил время. Его умение – продавать свою биографию то Европе, то России и получать за это газ и нефть. Эти деньги уходят на то, что мы их просто проедаем, а не вкладываем в будущее, в технологии. Но он остановил и социализм. Заводы и фабрики принадлежат государству. По большому счету ничего не продано, даже маленькие предприятия. Он сохранил психологию социализма, поскольку он сам этой психологии человек». (http://by.tribuna.com/tribuna/blogs/baraban/849317.html)

* * *

«Лукашенко боится, что Путин завоюет нас. Но не надо воевать с Беларусью. Нам просто достаточно зимой закрутить два крана – нефтяной и газовый. Все. И Беларуси нет, и Лукашенко нет. Лукашенко полностью в руках Путина. И никакой Запад не возьмет Лукашенко на иждивение так, как его взял на иждивение Путин, платя ему за то, что он с ним». (http://by.tribuna.com/tribuna/blogs/baraban/849317.html)

* * *

«Что касается белорусского языка, то у меня впечатление, что это не скоро будет. Очень не скоро. Хотя, конечно, молодые люди носят вышиванки, много курсов белорусского языка открылось, чего раньше абсолютно не было. Но, в принципе, народ к этому равнодушен». (http://by.tribuna.com/tribuna/blogs/baraban/849317.html)

* * *

«Белорусы долгое время ассоциировали себя с Россией, а сейчас, конечно, после Крыма, после Сирии появился страх перед Россией. Первое такое отдаление. И первое понимание того,



что начинается русский национализм, и что это очень страшное явление, и что нас может затянуть в эту воронку. Там может быть все – и гражданская война, и фашизм. Мы такие маленькие, что нас может туда затянуть». (http://by.tribuna.com/tribuna/blogs/baraban/849317.html)

* * *

*«Когда Лукашенко поздравил меня, пусть не первый, я была рада, потому что поняла: все-таки он политик. И вдруг вот этот комментарий. Я думаю, тогда он поздравил, потому что это было перед выборами, тут полно было разных комиссий международных, и перед своим народом надо было держать лицо, а сейчас он свободен».* (http://govoritmoskva.ru/interviews/919/)

* * *

«Во-первых, я никогда не критиковала белорусский народ. Я критиковала Лукашенко, я ему всегда говорю все, что я думаю: если хорошее, то хорошее, плохое – плохое. И для меня это странно, что он этим занимается сейчас, когда он получил пусть не 86%, как это говорят, но 60% населения его, несомненно, поддерживают». (http://govoritmoskva.ru/interviews/919/)

* * *

*«Я надеюсь, что мы живем не при феодализме. И я надеюсь, что Лукашенко не думает, как французский монарх: «Государство – это я». Если критикуешь его, значит, критикуешь народ. Это совсем не так. Люди ждут перемен, они хотели бы не вот эту мелкую кухонную свару, в которую превращаются отношения президента с интеллигенцией и лично со мной. Люди ждут* каких-то идей, перемен». *(http://govoritmoskva.ru/interviews/919/)*

* * *

*«Мы в общем-то опаздываем. А во что мы превращаемся? Даст Россия нам чего-нибудь или не даст? Если даст – проедим. Даст Международный валютный фонд или не даст? Если даст – опять проедим. Идей нету. Понимаете? Вот я думаю, это проблема и в России, и в Беларуси. Только бы была власть. Только бы удержать власть». (http://govoritmoskva.ru/interviews/919/)*

* * *

«Сейчас время сумерек. Люди обожжены ложью, которую принимают за правду. Зло названо добром. И очень многие это приняли». (http://by.tribuna.com/tribuna/blogs/baraban/849317.html)

РЭАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА

# На многае пагадзіліся...

Умовы, пры якіх можа быць выдадзены новы крэдыт Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, амаль узгоднены. «*Там знайшлі адлюстраванне пытанні скарачэння субсідый па камунальных тарыфах, па аб'ёме грашовай масы, па крэдытным стымуляванні эканомікі*», – паведаміў старшыня праўлення Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР) **Дзмітрый Панкін.**

Пытанне аб выдзяленні Беларусі новага крэдыту будзе разглядацца на бліжэйшым пасяджэнні Савета Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, які, верагодна, пройдзе да канца 2015 года. «*Савет прымае палітычнае рашэнне аб выдзяленні крэдыту*», – растлумачыў кіраўнік праўлення ЕАБР.

Як вядома, з заяўкай на атрыманне чарговага крэдыту Беларусь звярнулася ў Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця ў сакавіку гэтага года. Першапачаткова беларускі бок прасіў у фонду крэдыт на 3 млрд долараў, аднак у жніўні кіраўніцтва Нацбанка Беларусі заявіла, што гаворка ідзе аб крэдыце, сума якога знаходзіцца ў дыяпазоне ад 2 да 3 млрд долараў.

ДАРЭЧЫ

## Колькі яшчэ просім?

Варта зазначыць, што разам з крэдытам Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця беларускі бок жадае атрымаць новы крэдыт Міжнароднага валютнага фонду ў памеры 3 млрд долараў. У лістападзе Мінск плануе наведаць місія МВФ, якая будзе абмяркоўваць з беларускімі ўладамі ўмовы новай крэдытнай праграмы.

У 2009–2010 і ў 2011–2013 гадах Беларусь атрымала крэдыты і ад МВФ, і ад Еўразійскага фонду, які тады называўся Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

# ...Акрамя Шэймана, Сівакова, Навумава і Паўлючэнкі

Савет міністраў ЕС працягнуў санкцыі ў дачыненні да Беларусі на чатыры месяцы, і адначасова прыпыніў іх дзеянне на гэты ж тэрмін у дачыненні да 170 чалавек і трох кампаній з чорнага спісу. Рашэнне ўступіць у сілу 31 кастрычніка, паведаміла прэс-служба Савета ЕС.

Рашэнне прынята ў сувязі з вызваленнем палітвязняў, якое Еўрасаюз называе «доўгачаканым», і ў кантэксце паляпшэння адносін ЕС і Беларусі.

Сярод тых, хто ўваходзіў у санкцыйны спіс і хто цяпер зможа выязджаць у Еўропу, – прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** і яго сыны – Віктар і Дзмітрый, міністр юстыцыі **Алег Сліжэўскі,** міністр інфармацыі **Лілія Ананіч**, старшыня КДБ **Валерый Вакульчык**, кіраўнік Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына,** кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі **Генадзь Давыдзька,** члены ЦВК, кіраўнікі іншых выбаркамаў, шэраг рэктараў дзяржаўных ВНУ, суддзяў, пракурораў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў і г.д.

Санкцыі засталіся ў сіле ў дачыненні да чатырых грамадзян Беларусі – **Віктара Шэймана, Юрыя Сівакова, Уладзіміра Навумава і Дзмітрыя Паўлічэнкі,** якіх Еўрасаюз лічыць датычнымі да гучных знікненняў 1999–2000 гадоў. Яны знаходзяцца ў чорным спісе яшчэ з 2004 года.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

САЛІДАРНАСЦЬ

# Дрэвы дзеля памяці

"Народная Воля" распавяла кранальную гісторыю пра бацькоў загінуўшага на Майдане Міхаіла Жызнеўскага. Маці хлопца прызнаецца, што ёсць у Беларусі тыя, хто кажа ёй у вочы страшэнныя рэчы. Але, паважаная Ніна Васільеўна, тых, хто вас падтрымлівае і дзякуе за такога сына, значна больш. Я ўпэўнена ў гэтым.

І вось вам прыклад з майго горада. 27 кастрычніка ў Віцебску ў мікраёне "Білева" сябры аргкамітэта па стварэнні Партыі БХД пасадзілі 10 дрэўцаў у гонар Нябеснай сотні, перадусім беларусаў Алеся Чаркашына і Міхаіла Жызнеўскага.

**Таццяна СЕВЯРЫНЕЦ.**

КОЛОНКА ЮРИСТА

*На вопросы читателей «Народной Воли» отвечает руководитель правозащитного центра «Правовая помощь населению» (Киев, Украина) юрист* ***Олег ВОЛЧЕК.***

## Выселить не получится

***В 2010 году, находясь в браке, за счет льготного кредита «Беларусбанка» мы с женой построили 2-комнатную квартиру. Кредит и квартира оформлены на меня.***

***В 2014 году наш брак был расторгнут. В квартире сейчас никто не проживает, но зарегистрированы я, бывшая жена, дочь бывшей жены от предыдущего брака, 1991 года рождения, и двое наших совместных несовершеннолетних детей. Коммунальные услуги и кредит оплачиваю только я. Можно ли выписать бывшую супругу из квартиры, поскольку фактически она там не проживает? Как вынудить ее оплачивать расходы по оплате коммунальных услуг и кредита?***

**В.Шпаковский, Столинский район.**

Поскольку квартира построена, когда вы еще состояли в браке, то является общей совместной собственностью супругов (статья 23 Кодекса Республики Беларусь о браке и семье). Поэтому, даже если бывшая жена и не проживает долгое время в квартире, выселить ее нельзя.

Однако, если бывшая супруга отказывается платить за коммунальные услуги и выплачивать кредит, вы можете предъявить в суд иск о возврате той части расходов, которая приходится на бывшую супругу. В этом случае расходы по госпошлине будут отнесены на ответчика – бывшую супругу.

## Не имеют права

***Я являюсь членом садового товарищества «Ягодка 2002». Мой дачный сезон заканчивается 30 сентября, так как с 1 октября прекращается льготный проезд для пенсионеров. 29 сентября 2015 года на стенде в товариществе вывесили объявление: «3.10.2015 состоится субботник по вырубке леса вдоль высоковольтной линии. Явка строго обязательна. Неявка: штраф 1 базовая величина (по решению собрания). Правление». Правомерно ли поступают общее собрание и председатель, налагая штраф за неявку на субботник?***

**Нина Куданович, Минск.**

Полномочия общего собрания и председателя товарищества указаны в Уставе.

Что касается участия в субботнике, то это дело добровольное и рассматривается оно как отношения работника и нанимателя. Как видно из вашего письма, вы член садового товарищества «Ягодка 2002», но работником этого товарищества не являетесь.

Председатель товарищества не является должностным лицом, которое в пределах своей компетенции может составлять протокол об административном правонарушении, вести подготовку дела об административном правонарушении либо налагать административное взыскание.

## Обращайтесь в ЖКХ и Госконтроль

***Проживаю в Минске. На весенне-осенний период переезжаю в г.Червень, где у жены есть частный дом.***

***В доме нет водопровода. Как и другие жители, пользуемся колонкой, которая установлена на улице. Работники Червенского ЖКХ заставляют нас заключить договор на оплату воды. Самое интересное, что тариф для тех, кто берет воду из колонки, и для тех, кто получает воду по водопроводу, одинаковый. Раньше такого не было, поскольку вода из колонки оплачивалась из средств бюджета, куда жители платят налоги. Подскажите, пожалуйста, что-то изменилось в законодательстве или это инициатива местного ЖКХ?***

**Анатолий Курьян, г.Червень.**

Уважаемый Анатолий Дмитриевич, спасибо, что написали о данной проблеме. Но, чтобы получить ответ на свой вопрос, вы должны письменно (с уведомлением) обратиться в ЖКХ г.Червеня. В обращении поставьте следующие вопросы: на основании какого нормативного акта заключаются договоры на оплату коммунальных услуг по статье «водоснабжение» при пользовании колонками водопровода, установленными в общественных местах? Требуется ли заключение отдельного договора с собственником частного дома, у которого нет своего водопровода? Также советую письменно обратиться в Минский областной Комитет государственного контроля, осуществляющий госконтроль за исполнением правовых актов правительства Республики Беларусь и других государственных органов, чтобы они дали правовую оценку правомерности такого решения Червенского ЖКХ.

## Согласно калькуляции…

***От предприятия «Пружанрайгаз» с целью профилактического осмотра газовой плиты пришли два слесаря. Осмотр длился 1,5–2 минуты, и стоила эта услуга 37.200 рублей. Соответствует ли это объему выполненных работ? Насколько мне известно, в Бресте стоимость аналогичного осмотра составляет 15 тысяч рублей.***

**Николай Канахович, г.Пружаны.**

В соответствии с Правилами пользования в быту (в редакции постановления Совмина от 24.12.2013 №1136) газоснабжающая организация проводит техническое обслуживание газоиспользующего оборудования, определенного в договоре на газоснабжение, техническое обслуживание газового оборудования и внутридомовых систем газоснабжения, согласно регламенту работ, установленному изготовителем.

В соответствии с п.4 типового договора цена на работы по техническому обслуживанию, ремонту и иным видам работ устанавливаются газоснабжающей организацией на основании прейскуранта цен (калькуляции), действующего на дату выполнения работ.

Советую вам направить письменный (с уведомлением) запрос в «Пружанрайгаз» с просьбой сообщить вам, на основании какого нормативного акта проводится профилактический осмотр газовых плит; как складывается сумма (расписать подробно) по калькуляции.

* * *

*Уважаемые читатели, когда вы шлете письма в «Колонку юриста», пожалуйста, указывайте полностью имя, фамилию, свои контактные данные (телефон и точный домашний адрес), чтобы при необходимости мы могли с вами связаться.*

*Если у вас возникли проблемы, вопросы к государственным организациям, сначала письменно обращайтесь туда. В соответствии со ст.17 Закона РБ «Об обращениях граждан и юридических лиц» ваше письменное обращение должно быть рассмотрено не позднее 15 дней, если не требуется дополнительного изучения и проверки.*

*Только после получения ответа и при несогласии с ним направляйте ваши вопросы в редакцию. Мы обязательно постараемся помочь вам разобраться в сложившейся ситуации.*

**Олег ВОЛЧЕК, ведущий колонки юриста.**

ГОЛАС СЭРЦА

# Станем падтрымкай бацькам Героя Міхаіла Жызнеўскага!

*Адкрыты ліст да землякоў*

Дарагія гамельчукі! Звяртаюся да вас па дапамогу. Мы ўсе павінны аб'яднацца і стаць апірышчам і падтрымкай бацькам Героя Нябеснай сотні Украіны, нашага суайчынніка **Міхаіла ЖЫЗНЕЎСКАГА.**

Ён сапраўдны Герой! Сын беларускага народа аддаў сваё маладое жыццё дзеля свабоды народа Украіны, і я ўпэўнена, што на яго подзвігу будуць выхоўвацца будучыя пакаленні.

Успомнім нашых хлопцаў, што калісьці, у сярэдзіне 1930-х гадоў мінулага веку, перад пачаткам Другой сусветнай вайны, ваявалі за свабоду далёкай ад нас Іспаніі. Імі мы ганарыліся і ганарымся зараз: яны змагаліся з фашызмам. Колькі фільмаў, літаратурных твораў на гэту тэму кранулі сэрцы і нават лёсы людзей з усяго свету! Я ўпэўнена, што пройдзе час, і пра нашага Мішу будуць складаць песні, напішуць кнігі і здымуць фільмы. Але так хочацца, каб дачакаліся гэтага бацькі Героя – Ніна Васільеўна і Міхаіл Пятровіч Жызнеўскія.

Скажу, як думаю. Наша колішняе савецкае выхаванне дагэтуль не адпускае нас, яшчэ нямала па-ранейшаму сляпых і глухіх. Выхоўвалі нас, дзяцей, на прыкладзе Паўліка Марозава, вучылі любіць уладу, якой бы яна ні была. У Гомелі я заканчвала сярэднюю школу №34 Чыгуначнага раёна, якая месцілася ля Палескага пераезда, праз плот амаль у адным двары з прыгожай царквой. Цяпер там манастыр. Помню, як аднойчы на Вялікдзень да нас, чацвёртакласнікаў, звярнулася настаўніца з загадам: "Вечарам усім надзець чырвоныя гальштукі, прыйсці на вячэрнюю службу і глядзець, хто з бацькоў, старэйшых братоў і сясцёр будзе ў царкве. Заўтра расказаць!" Вядома, амаль усіхнія бацькі, і мая мама сярод іх, былі там. Свята ж якое! Мы, дзеці, былі зачараваны ўсім, што адбывалася ў храме. Раніцай не глядзелі адзін на аднаго, з хваляваннем чакалі настаўніцу. Я сядзела, нізка апусціўшы галаву на парту, а сэрца калацілася. Калі б пачула пытанне настаўніцы да сябе, то проста разраўлася б. Ды, о Божачка, які цуд! Настаўніца нечакана кажа: "У нас зараз геаграфія. Што было зададзена? Валя Курчанская, да дошкі". Не ведаю, як усё адбывалася ў тую раніцу ў іншых класах – "выхаваўчае" ж заданне атрымалі тады ўсе настаўнікі. Але, думаю, што і ў іншых хапіла розуму не рабіць той страшны допыт.

Адгортваю час назад, калі была ўжо ў 7-м класе. 3–5 сакавіка, 1953 год. Пахаванне Сталіна. На ўсіх дамах, над школай, у кожным класе сцягі з чорнымі стужкамі. Заходзіць выкладчыца па матэматыцы Н.Б.Цоглiна. Убачыла сцяг і загаласіла, а мы за ёй. Гэта быў нават не плач, а роў галасоў, істэрычны роў. Відовішча было жахлівае…

Так што ж мы хочам ад нашых людзей, якія, тады яшчэ дзеці, зараз даўно ўжо не маладыя і выхоўваюць на свой манер унукаў і праўнукаў? Моцная была пры Саветах сістэма выхавання любові да ўлады. Але калі раней сваю "выхаваўчую" работу выконвалі галоўным чынам настаўнікі і радыё, то цяпер у асноўным – расійскія і расійска-беларускія тэлеканалы. Няма больш моцнага сродку кадзіравання насельніцтва, чым афіцыйныя СМІ з адыёзнымі пісакамі і вядоўцамі.

У свой час ім прыйдзецца трымаць адказ за маральную шкоду, якую нанеслі яны глядацкаму электарату. І тая жанчына, якая проста па-вар'яцку паставілася да Вас, дарагая Ніна Васільеўна Жызнеўская, у лякарні, – яна ж глядзіць толькі "савецкае" тэлебачанне, а "Народную Волю", безумоўна, не чытае. Чаго ж іншага ад яе і ёй падобных чакаць? Даруйце ёй, калі ласка, яна няшчасны чалавек, хоць гэтага сёння не адчувае і не разумее. А Вы, паважаная Ніна Васільеўна, нягледзячы на незваротную і заўчасную згубу сына, – шчаслівая маці: выгадавалі такога мужнага і светлага чалавека, які і па той бок жыцця – з намі, з тымі, хто хоча міру, дабра і шчасця Беларусі, Украіне і ўсяму свету.

Мой родны Гомель, гамельчукі! Ганарыцеся сваім земляком, сваім сынам! Можа, вы бачылі схопленыя камерай кадры, калі ўпаў з куляй у сэрцы Міша Жызнеўскі, – і тут жа быў сын армянскага народа Сяргей Нігаян. Па афіцыйных каналах гэтыя кадры, само сабою, не паказвалі. А калі бачыш – узнікае такое моцнае і высокае пачуццё: не шкадуючы свайго жыцця, два прыгожыя маладыя хлопцы розных нацыянальнасцяў гінуць за волю другога народа. І гэта не кіно, не прыдумка, а трагічны пранізлівы міг жыцця – акт сапраўднага гераізму дзеля нас усіх. Гібель іх, якую мы шчыра аплакваем, не выпадковая і не дарэмная. На такіх жыццёвых прыкладах выхоўваецца пачуццё дружбы, узаемнасці, дапамогі паміж народамі куды мацней, чым афіцыйнае заключэнне гучных дамоўленасцяў аб розных міждзяржаўных саюзах.

Хачу звярнуцца і да супрацоўнікаў гомельскай міліцыі – як выдатнік Беларускай міліцыі, калісьці некаторым дзеячам мастацтва надавалі такія званні. Ваш гонар і прамы абавязак – спыніць акты вандалізму адносна помніка Міхаілу Жызнеўскаму. Сваёй працай вы не раз даказвалі, што можаце раскрыць складаныя справы.

Паважаныя Ніна Васільеўна і Міхаіл Пятровіч, трымайцеся! Не хварэйце, будзьце мужныя, як Ваш сын. Вы павінны дажыць да тых шчаслівых дзён, калі перад Вамі будуць расступацца людзі з цёплымі, добразычлівымі ўсмешкамі.

Мне вельмі знаёмае пачуццё, калі жывеш, а ўлада цябе не бачыць. На жаль, чыноўнікі сустракаюцца і не надта чуйныя. А яны павінны стварыць Вам лепшыя ўмовы жыцця, улічваць Вашы патрэбы, прымацаваць да іншай лякарні. Вы гэта сапраўды заслужылі!

Дзякуй Вам за Вашага Мішу! Ведайце: беларускія грамадзяне-патрыёты падтрымліваюць Вас. Нізка кланяюся Вам да зямлі.

**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# Прышчэпка – справа добраахвотная

***Скажыце, калі ласка, прышчэпкі ад грыпу ў нас бясплатныя ці не?***

***Я індывідуальны прадпрымальнік, і, калі вадзіў дачку ў мясцовы ФАП, мне сказалі, што ўсім ІП у абавязковым парадку трэба зрабіць гэту самую прышчэпку ад грыпу і каштуе яна 78.500 рублёў. У адваротным выпадку я павінен пісаць адмову, за якую (як мне растлумачылі ў ФАП) мяне будуць «прапясочваць» у райвыканкаме. Можа, ёсць нейкі ўказ, па якім інэшнікаў абавязваюць павялічваць колькасць грошай, атрыманых ад аказання платных паслуг бясплатнай медыцынай?***

**Дзмітрый Умпіровіч.**

У прэсе эпідэміёлагі не раз тлумачылі: калі пацыент не хоча вакцынавацца ад грыпу, то гэта яго законнае права, ён можа адмовіцца ад прышчэпкі як ад медыцынскага ўмяшальніцтва.

Адмова ад аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку медыцынскага ўмяшальніцтва, афармляецца запісам у медыцынскіх дакументах і падпісваецца пацыентам і тэрапеўтам. Пры адмове ад медыцынскага ўмяшальніцтва пацыенту ў прафілактычнай гутарцы доктар у даступнай форме тлумачыць магчымыя наступствы адмовы.

Цяпер што тычыцца вашага пытання, бясплатна ці не прышчапляюць ад грыпу. У адпаведнасці з Нацыянальным календаром прафілактычных прышчэпак бясплатнае правядзенне прадугледжана толькі для наступных груп насельніцтва:

– дзеці ва ўзросце ад 6 месяцаў да 3 гадоў;
– дзеці ва ўзросце ад 3 гадоў і дарослыя з хранічнымі захворваннямі;
– школьнікі;
– асобы з імунасупрэсіяй;
– асобы ва ўзросце старэй за 65 гадоў;
– цяжарныя жанчыны;
– медыцынскія работнікі;
– дзеці і дарослыя, якія знаходзяцца ва ўстановах з кругласутачным рэжымам знаходжання;
– работнікі дзяржаўных органаў, якія забяспечваюць бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (міліцыя, гандляры і г.д.).

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧИТАТЕЛЬ – ЧИТАТЕЛЮ

# А вам и всем нам, белорусам, это надо?

Прочитал в одном из номеров «Народной Воли» заметку Розалии Рубинчик, в которой она призывает руководство страны и всех нас, белорусов, более чутко относиться к беженцам. Казалось бы, а не проще ли самой показать пример? Взять и пригласить в свою квартиру на временное проживание семью арабов или двойку-тройку беженцев с того же Донбасса. Что касается их трудоустройства, то не очень волнуйтесь – не все из них будут стремиться к заводскому станку или на стройку, как и засевать наши во многих местах пустующие поля.

В нашем подъезде жил парень лет двадцати. Каким-то образом он перебрался в Швецию (!), получил там статус беженца. Работает? Нет, не работает. Живет на пособие.

А вы, уважаемая Рубинчик, знаете, какое у нас пособие по безработице? Мизерное. Вот почему мы и не видим на наших границах (и России тоже!) толпы беженцев. Кстати, представить себе не могу, как поступили бы наши доблестные генералы-пограничники, увидев сотню-другую беженцев, желающих попасть в нашу Синеокую, если, помните, даже двух человек на воздушном шаре они не захотели брать в плен, а просто-напросто расстреляли.

Представьте себе такую ситуацию. К нам прибыли сотни тысяч беженцев с Востока. Будут они терпеливо ждать, если произойдет задержка пособия? А как отнесутся к тому, когда, зайдя в магазин, увидят, что цены за одну ночь серьезно подскочили? Вероятнее всего – поднимут бунт. Вам и всем нам, белорусам, это надо?

Я согласен с Вами, уважаемая Розалия, что помогать нужно и детям, и женщинам, и старикам. Но присмотритесь повнимательнее к лицам беженцев, которых показывают по телевидению каждый день. Большинство из них – это молодые мужчины, не измученные голодом, а полные сил. В их стране идет гражданская война, то есть война добра со злом. Так кто, как не они, должны бороться с теми же боевиками «Исламского государства»?! Мир в их стране сам по себе не наступит. Его надо завоевывать, как это делали наши отцы и деды.

Вот что я хотел сказать Вам, дорогая Розалия Рубинчик.

**В.А.РУСЕЦКИЙ, минчанин.**

ТАК ДУМАЮ!

# Міліцыя даказала, што вы, Мікалай, маеце рацыю!

Уважліва прачытаў у "Народнай Волі" інфармацыю аб тым, як назіральнік ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, былы аператыўнік, падпалкоўнік міліцыі ў запасе Мікалай Казлоў выкрыў фальсіфікатараў на датэрміновым галасаванні ў Мінску.

Мужчыны, якія, на думку Мікалая, не мелі права галасаваць у 188-й школе, таму што не прапісаны на гэтым участку, паспрабавалі адабраць у яго планшэт, на які Мікалай іх здымаў, ударылі яго, нанеслі цялесныя пашкоджанні. Знайсці іх для міліцыі, як кажа Казлоў, справа двух дзён.

Я не следчы і нават не маю вышэйшай адукацыі, але і я разумею, што гэта сапраўды вельмі проста. Казлоў жа прадаставіў міліцыі свой відэазапіс! Ды і жывуць яны, хутчэй за ўсё, недалёка ад школы.

Калі б гэта былі проста хуліганы, міліцыя знайшла б іх (не думаю, што нашы праваахоўнікі такія бездапаможныя). Але займацца пошукамі фальсіфікатараў не захацелі. Даўшы адмоўны адказ Казлову на ўзбуджэнне справы па ягонай заяве, яны тым самым прызналі, што Мікалай Казлоў мае рацыю. Ён схапіў за руку фальсіфікатараў!

**А.А.ПАДАБЕД.**

*Мінскі раён.*

КРЫЎДА!

# Чаму наведаць могілкі так дорага?

У нядзелю наведваў могілкі ў Калодзішчах, што пад Мінскам. Там пахавана мая маці. Ужо шмат разоў гаварылі пра дарогу на тыя могілкі, якую сёлета нібыта рамантавалі, але асобныя адрэзкі нагадваюць пасляваенны перыяд.

Але што мяне больш за ўсё ўзрушыла гэтым разам – павелічэнне платы за ўезд на могілкі.

Ля брамы ахоўнік запатрабаваў з мяне 25 тысяч рублёў. Што рабіць? Натуральна, заплаціў. Бо ісці пешшу далёка, а ў машыне былі вёдры, мяхі з пяском, мяцёлка і іншы інвентар – ехаў прыбраць магілу маці.

Але на могілках за той перыяд, што адбылося падаражанне (яшчэ напрыканцы жніўня за ўезд бралі 20 тысяч), нічога не змянілася, акрамя таго, што цяпер няма дзе набраць вады! На тым месцы, дзе былі кранікі, цяпер проста завараныя трубы. Людзі адзін у аднаго запытваліся, дзе можна набраць вады, і тыя, хто здагадаўся прывезці з сабой бутэлькі, каб памыць помнікі, дзяліліся з тымі, хто разлічваў набраць вады на могілках.

Адна жанчына сказала, што нібыта можна набраць вады на ўездзе, дзе знаходзяцца ахоўнікі, але гэта азначала, што зноў туды трэба ехаць праз усе могілкі. А як быць тым, хто грамадскім транспартам дабіраўся? Я яшчэ разумею, што ваду на зіму маглі спусціць, каб не сапсаваліся трубы. Але ж надвор'е цёплае. Дый трубы навошта заварваць? Вырашылі сэканоміць на вадзе?

2 лістапада Дзяды. У выхадныя, зразумела, на могілках будзе многа людзей. Бабулькам, якія будуць ехаць аўтобусам, прыйдзецца цягнуць яшчэ і бутэлькі з вадой. І ўвогуле, як тады патлумачыць такую высокую плату за ўезд на могілкі?

**А.КУЛЬБІЦКІ.**

АБРАКАДАБРА

# Галаву зламаць можна

Днямі мне давялося шукаць у Оршы завулак Яравы. Ні па карце не знайшоў, ні з дапамогай саміх аршанцаў. Як аказалася, завулак Яравы – гэта беларуская назва, а так ён называецца "переулок Овражный".

Я, беларус, і тое ніколі б не здагадаўся. А ўявіце, што адчуваюць госці нашай краіны, калі маюць на руках той ці іншы адрас. У адным горадзе вуліцы на шыльдах пазначаны па-руску, у другім – па-беларуску… І добра б толькі літарамі тыя шыльды і назвы адрозніваліся: Яравы і Овражный – ёсць розніца?

Я ўвогуле не разумею, навошта перакладаць назвы вуліц. Мы ж не перакладаем прозвішчы: калі чалавек Белкін, то ён і па-руску *Белкин,* і па-беларуску Белкін. Калі чалавек Вавёркін, то і па-руску *Вавёркин* (ну, можа, *Вовёркин*), і па-беларуску так. Чаму ж тады назвы вуліц перакладаюцца, тым больш што гэта стварае толькі блытаніну?

Узяць тую ж Оршу. Там, як высветлілася, ёсць завулак 11 ліпеня (у рускім варыянце – "*переулок 11 липеня*", а зусім не "*июля*"), ёсць праезд Чэрвеньскі (у рускім варыянце – *Червенский*)… Але адначасова ў той жа Оршы існуюць вуліцы, завулкі, пераезды: і *Цветные*, і Каляровыя, і *Трудовые*, і Працоўныя… Ёсць Лютаўскі тупік, ён жа – *Февральский*… Ну галаву ж можна зламаць!

**Ігар БЫЧЭНКА.**

*Мінск.*



Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

# Беата Шидло: дочь шахтера в кресле премьера Польши

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

### «Новое лицо»

*«Беата Шидло новое, умеренное лицо правого крыла польской политики. Это трудолюбивая, знающая и интеллигентная женщина, поспособствовавшая блестящей победе Анджея Дуды на президентских выборах»,* – говорит Марек Магеровский, советник президента Дуды.

Быть «новым лицом» на фоне находившейся у власти восемь лет и растерявшей свою популярность «Гражданской платформы» очень важно. Однако Шидло выделяется и на фоне своего босса Качиньского.

66-летний холостяк Ярослав Качиньский является весьма неоднозначной фигурой. Он не боится прямо обвинять своих политических оппонентов в симпатиях к коммунистам, а недавно заявил, что беженцы с Ближнего Востока завозят в Европу различные болезни.

Возглавляемая им партия «Право и справедливость» проигрывала все выборы с 2007 года, пока в этом году Качиньский не решил уступить место кандидата в президенты Анджею Дуде.

Как и ее босс, Беата Шидло всегда подчеркивала важность традиционных католических семейных ценностей. Она, так же как и Качиньский, настаивает на том, что все слои населения должны почувствовать на себе впечатляющий рост польской экономики. При этом ее тон мягче, а высказывания более взвешенны.

### Удачная карьера

Беата Шидло родилась и выросла в угледобывающей области Бжеще на юге Польши.

*«С большой любовью я вспоминаю теплоту, царившую в моей семье. Мы всегда поддерживали друг друга, но и дисциплина была. Мои родители много работали, папа был шахтером»,* – написала Шидло на своей странице в интернете.

Она также вспоминает, что любила читать, а в студенческие годы в Ягеллонском университете в Кракове играла в гандбол. Там же она познакомилась со своим мужем Эдвардом, у них двое сыновей.

В 35 лет Беата стала самым молодым мэром одного из городов Малопольского воеводства, затем вступила в партию «Право и справедливость», где поднялась до должности заместителя партийного лидера.

*«Она никогда не входила в состав кабинета, поэтому на посту премьер-министра ей предстоит многому научиться, и это будет непросто. Тем не менее ее экономические взгляды, которые представляют собой смесь рыночной экономики и социальных программ, стали основным козырем ее предвыборной кампании. По крайней мере это точно нашло отклик среди консервативно настроенного электората, уставшего от коррупции и бездействия прежних властей»,* – говорит Марек Магеровский.

### Марионетка?

При этом многие критики сомневаются, что на посту премьера Беата Шидло сможет действовать независимо от Ярослава Качиньского.

В рамках своей кампании партия «Гражданская платформа» показала по телевидению несколько эпизодов, в которых Качиньский допускает какие-то оплошности, а Шидло комментирует это словами *«председатель всегда прав».*

В 2005 году Ярослав Качиньский ушел в тень, чтобы дать возможность своему брату-близнецу Леху Качиньскому победить на президентских выборах. Он опасался, что поляки не потерпят, если братья займут оба ведущих поста в стране.

Тогда Ярослав временно выбрал на роль премьер-министра мало кому известного Казимира Марцинкевича, который занимал эту должность всего восемь месяцев. Когда страсти улеглись, Качиньский сам вступил в должность премьера.

*«Она (Шидло) долго не продержится. Она – творение председателя (партии) Качиньского и сделает все, что он захочет»,* – сказал в интервью Би-Би-Си известный польский журналист Константин Геберт.

*«Уже понятно, что она настолько же нехаризматична, как и премьер-министр Копач, и этим все сказано. Ее сменят сразу же, как только Качиньский решит перетряхнуть кабинет»,* – уверен Геберт.

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

### Меркель в Китае: подписаны многомиллиардные договоры

В ходе визита Ангелы Меркель в Китай заключены несколько экономических соглашений, среди них заказ концерну Airbus на поставку 130 лайнеров. Стороны также обсудили ситуацию в Сирии.

### Дебаты кандидатов

Дебаты между 10 кандидатами от Республиканской партии смотрели миллионы американцев. По оценке журналистов, в ходе дебатов во многом определились лидирующие кандидаты

Миллиардер **Дональд Трамп,** лидирующий в опросах общественного мнения среди республиканцев, подвергся резкой критике. Как указал губернатор штата Огайо **Джон Касич,** управленческого опыта Трампа недостаточно для того, чтобы руководить страной. Второй по популярности кандидат от республиканцев – нейрохирург на пенсии **Бен Карсон,** стремительно догоняет Трампа в рейтингах: если за Трампа готовы проголосовать около 27% членов партии, то за Карсона – 22%. Показатель третьего по популярности кандидата – сенатора **Марка Рубио** – 9%.

### Италия в этом году стала лидером мирового виноделия

Франция уступила Италии первое место в мире по производству вина.

Эти две страны по традиции соревнуются за звание крупнейшего производителя вина. В прошлом году это почетное место досталось родине бордо и бургундского, а в 2013-м – стране кьянти и бароло.

Италия сейчас производит 48,9 гектолитра вина, что на 10% больше предыдущих показателей. Производственные показатели Франции выросли на 1% – до 47,4 гектолитра, оставив на третьем месте Испанию с 36,6 гектолитра.

### Президентом Непала впервые стала женщина

Парламент Непала выбрал нового президента. Впервые государство возглавит женщина – один из лидеров Объединенной коммунистической партии Непала **Бидхья Деви Бхандари.**

### Музыкант из Вологды стал лучшим баянистом в мире

Студент четвертого курса Вологодского областного колледжа искусств **Александр Комельков** выиграл Международный конкурс аккордеонистов и баянистов «Кубок мира – 2015», став номером один на планете.

### Иран впервые приглашен на переговоры по Сирии

Официальный представитель Госдепартамента США **Джон Кирби** подчеркнул, что на переговорах в Вене, которые пройдут сегодня, 30 октября, будет представлен ряд стран, которые надеются достичь соглашения по «многосторонней системе взглядов, позволяющей договориться об успешном политическом переходном периоде в Сирии, который приведет к созданию правительства без Башара Асада».

Кирби отметил, что в Вене будет проведено множество двусторонних и многосторонних переговоров. *«Иран приглашен для участия. Примут ли они приглашение или нет, зависит от Тегерана»,* – заявил представитель американского внешнеполитического ведомства.

СТОП-КАДР

# «Сямейны бізнес» Трудо

Пераможца парламенцкіх выбараў у Канадзе лідар Ліберальнай партыі Джасцін Трудо нахіліўся да сваёй маці. Бацька Джасціна П'ер Трудо, які ўжо памёр, двойчы ўзначальваў канадскі ўрад – у 1968–1979 і 1980–1984 гадах.

АКЦИИ

# 2000 овец на улицах Мадрида

Испанские пастухи прогнали две тысячи овец по центральным улицам Мадрида. Таким образом они воспроизвели старинный праздник перегона отар Fiesta de la Trashumancia, традиция проведения которого насчитывает около семи веков. В последние годы он превратился в акцию протеста против урбанизации Испании и в защиту права животноводов использовать традиционные пути перегона животных, проходящие в том числе по территории современных городов.

«Шерстяной парад» прошествовал мимо основных достопримечательностей Мадрида, в том числе по площади Пуэрта-дель-Соль и мимо штаб-квартиры Банка Испании. Многие основные дороги города были перекрыты, автомобильное движение парализовано.

Животные были украшены колокольчиками, гигантскую отару сопровождали пастушьи собаки. Вместе с пастухами и овцами по улицам прошли танцоры и музыканты, одетые в традиционные испанские костюмы, характерные для жителей сельской местности в период раннего средневековья.

ФОТАФАКТ

# Чаму гэты здымак узарваў сацыяльныя сеткі?

Здымак як здымак. Тры пажылыя жанчыны клапоцяцца пра дзіцёнка. Але гэты здымак літаральна ўзарваў сацыяльныя сеткі.

Справа ў тым, што бацькі дзіцёнка – нелегальныя мігранты. Немаўляці толькі месяц, ён увесь прамок і хоча есці, а ў маці праблема з малаком. На дапамогу прыйшлі гэтыя пажылыя жанчыны. Яны накармілі дзіцёнка малаком з бутэлькі, праспявалі яму калыханку…

Ці не так мы павінны ставіцца да тых, хто трапіў у цяжкае становішча?

АДПАЧЫНАК

# Чые горы таннейшыя?

*Карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў выставу «Турбізнес-2015», якая нядаўна прайшла ў Мінску, і даведаўся, куды запрашаюць адпачываць беларусаў узімку.*



### Ад Нясвіжа да Мальдываў

Першая высnova, якая напрасілася сама сабой пры наведванні выставачнага комплексу «Белэкспа»: беларусам не да адпачынку. Не сказаць, што людзей не было ўвогуле, але ў вочы кінулася тое, што прадстаўнікоў турфірмаў, прадпрыемстваў і гатэляў было ў разы больш, чым наведвальнікаў. Удзельнікі выставы відавочна сумавалі і былі рады кожнаму, хто падыходзіў да іх стэнда.

Прызнаюся, шчыра здзівіўся, калі на турыстычнай выставе ўбачыў стэнд «Мінскхлебпрама». Жанчына-гандлярка заклікала ўсіх ахвочых набыць піражныя і іншыя мучныя вырабы. Аказалася, такі «піяр-ход» быў зроблены для таго, каб заахвоціць турыстаў прыехаць у санаторый «Журавушка» пад Мядзелем, які належыць прадпрыемству.

«Прыязджайце да нас. Санаторый стаіць прама на беразе Нарачы, – сталі ўгаворваць мяне. – У нас прыгожа і па беларускіх мерках нядорага».

Не ведаю, ці пакутуе пабудаваная яшчэ за савецкім часам «Журавушка» ад недахопу турыстаў, але кошты там і сапраўды дэмакратычныя.

Напрыклад, кошт аднамеснага нумара ў перыяд з 30 снежня 2015 года па 11 студзеня наступнага года складае 5.741.000 рублёў. Сюды ўключаны навагодні банкет і лячэнне (да і пасля банкету). Дарэчы, спектр медыцынскіх паслуг у «Журавушцы» даволі шырокі: ад водалячэння і інгаляцый да кансультацый вузкапрофільных урачоў з прызначэннем працэдур і лячэння для кожнага канкрэтнага чалавека.

Увогуле, турыстычных фірмаў, якія спецыялізуюцца на паездках унутры краіны, хапала. Прапановы былі розныя: ад класічных паездак у Мір, Нясвіж, Навагрудак да менш вядомых напрамкаў, такіх як Кобрын, Станькава, Слонім...

Зразумела, не абыходзяць беларускія турфірмы ўвагай і сонечныя краіны. Прапаноў і напрамакаў шмат.

«Многія турысты адказна падыходзяць да адпачынку і ўжо зараз браніруюць туры на лета будучага года», – прызнаецца супрацоўніца сталічнай турфірмы «Контур-Ламн». – У нас шмат прапаноў: ад Балгарыі і Егіпта да Іарданіі з Мальдывамі. Выбірайце на свой густ».

Выбіраць не стаў, але з коштамі азнаёміўся. Так, семідзённы адпачынак у трохзоркавым гатэлі балгарскага горада Сазапал у ліпені будучага года каштуе прыкладна 10 мільёнаў рублёў на дваіх. Тыднёвы вояж у Егіпет у лютым абыдзецца ў 19 мільёнаў на дзве персоны, сямідзённае падарожжа на экзатычныя Мальдывы ў студзені будучага года абыдзецца ў 85 мільёнаў рублёў на дваіх, а паездка ў гэтыя ж тэрміны на сем дзён на Мёртвае мора ў Іарданію пацягне на 45 мільёнаў (таксама на дваіх).

### Лепш за горы могуць быць толькі горы

Для аматараў больш актыўнага, чым пляжны, адпачынку на выставе таксама былі «смачныя» прапановы. І зрабілі іх беларусам нашы суседзі-ўкраінцы, якія запрашалі на адпачынак у Карпаты. Вось што распавёў карэспандэнту «Народнай Волі» прадстаўнік гатэльна-курортнага комплексу «Карпаты», што ў Трускаўцы, **Алег Рэга:**

– Беларускія турысты ўваходзяць у першую тройку тых, хто прыязджае адпачыць у Карпаты. Напярэдадні снежнага сезона мы прапаноўваем зноў прыехаць да нас, бо Заходняя Украіна – скарбніца актыўнага і аздараўленчага адпачынку. Адным з самых вядомых гарналыжных курортаў з'яўляецца Букавель і яго наваколле. Прапановы ёсць розныя – на кожны густ і кашалёк, у залежнасці ад умоў пражывання і блізкасці гарналыжнай трасы. Для прыкладу скажу, што дзённы абанемент на катанне каштуе прыкладна 10 долараў у будны дзень і каля 20 у выхадны.

Гатэльныя комплексы ў Букавелі знаходзяцца на вышыні 900 метраў над узроўнем мора, што гарантуе наяўнасць прыроднага, а не штучнага снегу. Сам гатэльны комплекс «Букавель» – комплекс прэміум-класа, хаця пражыванне там не такое ўжо і дарагое. Ведаю, што многія беларусы замест Сілічаў спецыяльна едуць у Букавель, бо ў нас танней. Напрыклад, пражыванне ў драўляным доміку каштуе прыкладна 10 долараў. Харчаванне каштуе 5 долараў у суткі. Упор у меню робіцца на нацыянальныя ўкраінскія стравы – боршч, варэнікі, банош... Ёсць апартаменты даражэйшыя. Усё залежыць ад узроўню камфорту і пажадання турыста. А ўвогуле, многія з прыязджаючых арандуюць кватэры. Кошт арэнды кватэры ў суткі складае 6 долараў і вышэй... Вось і мяркуйце, дзе адпачываць танней. (Для цікавасці зайшоў на афіцыйны сайт гарналыжнага курорта «Сілічы» і даведаўся, што арэнда двухмеснага катэджа там каштуе 1.170.000 рублёў у суткі).

**– Заходняя Украіна вядома і сваімі лячэбнымі курортамі, напрыклад, тым жа Трускаўцом. Што прапануюць там беларускаму турысту?**

– Па-першае, я запрашаю наведаць Трускавец нават тых, хто там ужо неаднаразова быў. Горад стаў больш маляўнічы. Па-другое, вы ведаеце, што Трускавец асацыіруецца ў першую чаргу з лячэбнай вадой. У гаэтальна-курортным комплексе «Карпаты», які я тут і прадстаўляю, ёсць шырокі выбар медыцынскіх паслуг. Мы спецыялізуемся на лячэнні цукровага дыябету, хвароб страўніка, нырак. Кожны з турыстаў можа прайсці абследаванне і атрымаць кансультацыю. У некаторых санаторыях у кошт пуцёўкі ўваходзіць набор стандартных працэдур. У нас жа падыход да кожнага індывідуальны.

Размяшчэнне ў «Карпатах» каштуе ад 40 долараў у суткі. У гэту суму ўключаны трохразовае харчаванне, лячэбна-дыягнастычныя працэдуры, кансультацыі дактароў, наведванне сауны, басейна, трэнажорнай залы.

Што да прапаноў па сустрэчы Новага года, то банкет разам з шоу-праграмай з удзелам народных артыстаў Украіны абыдзецца турысту ў 50 долараў. Хіба ж гэта дорага? Так што прыязджайце, мы вас чакаем!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*Больш падрабязна аб прапановах па лячэнні і адпачынку ў Трускаўцы вы можаце даведацца на сайтах* ***san-karpaty.com*** *і* ***mirotel.ua****.*

ВЕРСИИ

# Цены на нефть поднимет третья мировая война?

*Спрос на энергоресурсы на мировом рынке падает – экономика Китая и Индии растет меньшими темпами, чем рассчитывалось. Цена барреля держится в районе 50 долларов, но может дойти до 20. Тогда обрушится экономика нефтедобывающих стран ОПЕК. Возможный выход на западный рынок Ирана может нарушить существующие договоренности, что отложит рост нефтяных цен на ближайшие 10–15 лет.*

Кто и что мешает нефтяным котировкам вырасти? У экспертов существуют два ответа. Во-первых, основные потребители «черного золота» – страны Азиатско-Тихоокеанского региона, а также Индия, бурный экономический рост которых обещал пополнение копилок экспортеров нефти дополнительными миллиардами долларов по крайней мере до 2025 года, – снизили темпы. А во-вторых, Китай, также потерявший обороты в развитии экономики, уже не готов покупать столько энергоресурсов, сколько собирался (общие потери – более 65% заказанных объемов), чем поставил в неудобное положение и себя, и возможных поставщиков. Причем не только Россию, которая планирует проложить в Поднебесную два новых газопровода («Сила Сибири» и «Алтай»), но и другие добывающие страны, готовые поставлять топливо в Китай танкерами в виде сжиженного природного газа.

Что делать в такой ситуации производителям нефти и газа? Бороться за место под солнцем.

Почему падают цены на нефть? По словам доцента факультета финансов и банковского дела РАНХиГС **Сергея Хестанова**, Саудовская Аравия давно вступила в войну с американскими компаниями: *«Саудиты добывают традиционную нефть, американцы – сланцевую. Производство последней с появившимися в настоящее время технологиями стало вполне ликвидным и конкурентоспособным по ценам с традиционными видами энергоресурсов».*

Сланцевая нефть, себестоимость которой на порядок выше, чем себестоимость нефти, добываемой в Саудовской Аравии, вполне способна заменить часть доли мирового рынка (учитывая затраты на транспорт). *«Эр-Рияд делает все, чтобы цены остались на уровне 50 долларов за баррель. Для добычи традиционной нефти, себестоимость которой не превышает 10 долларов даже с учетом транспортного плеча, эта цена адекватна и приносит доходы»,* – отмечает эксперт.

Более того, Саудовская Аравия начала борьбу за европейский рынок энергоресурсов (до последнего времени американский сектор был для саудитов приоритетным). Одна из саудовских компаний приступила к поставкам нефти в Польшу, предлагая более низкие цены, чем россияне. Но, как утверждают игроки рынка, это поставки разовые и они вряд ли смогут повлиять на мировой уровень цен в целом.

В России есть месторождения, способные быть доходными при самой минимальной цене барреля на мировом рынке. Но цена в 50 долларов – это минимум для российского бюджета. Такие котировки будут больше на руку Саудовской Аравии, а не России. *«Эр-Рияд давит на цены, вынуждая уйти с рынка американские компании, добывающие сланцевое топливо. Такая стратегия удалила с рынка десятки производителей США. Правда, небольших. Но есть и другие, для которых 50 долларов за баррель – вполне доступная и конкурентоспособная цена»,* – говорит Сергей Хестанов.

Прошедшая 21 октября встреча представителей ОПЕК с руководителями нефтедобывающих государств, включая Россию, не принесла никаких конкретных результатов.

По словам Сергея Хестанова, до уровня середины прошлого года (примерно 115 долларов за баррель) цены на нефть дойдут не ранее 2025 года. *«Выход Ирана на западный рынок сбросит котировки еще на 15–20 долларов. Однако Саудовская Аравия, давящая на нефтяные цены, воспротивится такому исходу. С XIII века происходят религиозные распри между саудами и шиитами, которые проживают в Иране. Дать шанс Тегерану восстановить позиции на мировом энергорынке Эр-Рияд, конечно, не позволит. Обладая серьезными запасами углеводородов, каждая страна будет бороться за клиентов, которые станут выбирать более низкие цены. Каждый клиент станет на вес золота. Обе стороны, не говоря о странах ОПЕК и других крупных экспортерах нефти, начнут демпинговать. Будет вынуждена делать это и Россия. При нынешних темпах роста потребления энергоресурсов в мире цены на них вырастут до показателей, наблюдаемых в прошлом году на пике, не раньше, чем через 10–15 лет»,* – полагает Сергей Хестанов. И для этого, замечает эксперт, вполне возможно, «понадобится» третья мировая война.

(По материалам зарубежной прессы.)

### В Бразилии стартовали первые Всемирные игры коренных народов

Сотни спортсменов из 30 стран, в том числе и России, соревнуются за медали в десяти дисциплинах, наиболее приближенных к национальным видам спорта.

### В Вене открылись курсы ходьбы на каблуках для мужчин

В венской академии Top in Heels, где женщин учат красиво ходить на высоких каблуках, открылись такие же курсы для мужчин. Как сообщает The Local, большой интерес к этому местные жители стали проявлять после конкурса «Евровидение».

